


**ВОРГАН БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫЯНАЛЬНА ВЫЗВОЛЬНАЙ ДУМКІ**

DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „BAĆKAUŠČYNA“ („VATERLAND“)
Herausgeber: Wladimir BORTNIK
Die Administration: (13 b) München 15, Pettenkoferstr. 23/I.
Druck: „LOGOS“, Buchdruckerei u. Verl., G.m.b.H., München 8, Rosenheimer Str. 46 a.
**Цана паза Нямеччынай:** ЗША — 15 цэнтаў, Канада — 15 ц., Ангельшчына — 1 шылінг, Францыя — 20 фр., Бэльгія — 5 фр., Аўстралія — 1 шылінг, Аргентына — 2 пэзо. У іншых краінах раўнавартасьць 15 ам. цэнтаў. Цана лётніцкай поштай у заакіянскія краіны — 30 ам. цэнтаў. — Падвойныя нумары каштуюць падвойна.
**Банкавае конто:** Administration der weissruthenischen Zeitung „Baćkauscyna“ Bankkontonummer 357-125 Bayerische Hypotheken- und Wechselbank, München.

ГАЗЭТА ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ — ЦАНА 30 Н. ФЭН.

LE JOURNAL BIELORUSSIEN „LA PATRIE“ | DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „DAS VATERLAND“ | THE WHITERUTHENIAN NEWSPAPER “THE FATHERLAND„

№ 23 (253) — Нядзеля 5 чэрвеня 1955 г. — ГОД ВЫДАНЬНЯ 9

# Справа вызваленьня сатэлітаў

Як ведама, адным з найбольш эфэктоўных перадвыбарных лёзунгаў рэспубліканскай партыі ў Амэрыцы ў 1952 годзе была палітыка вызваленьня. Гэты лёзунг ставіўся рэспубліканцамі ўва ўсей сваей глыбіні і шырыні. Гаварылася тады ня толькі аб вызваленьні сатэлітных краінаў, але й народаў Савецкага Саюзу, паняволеных бальшавізмам. Найбольшым тэарэтыкам гэтае вызвольнае палітыкі выступіў Джэмс Бэрнгэм, які ў сваёй кнізе «Паўстрымоўваньне ці вызваленьне навукова даказаў вялізарную карысьць палітыкі вызваленьня паняволеных народаў, у тым ліку й народу беларускага. Найбольш поўным спрэцызаваньнем гэтае палітыкі былі словы прэзыдэнта Айзэнгаўэра, што «свабода зьяўляецца непадзельная», на якую маюць роўнае права ўсе бяз выключэньня народы сьвету.

Хутка, аднак, аказалася, што палітыка вызваленьня была толькі перадвыбарным лёзунгам і нічым болей. Хутка пасьля выбараў і перамогі рэспубліканцаў аб палітыцы вызваленьня не ўспаміналася ўжо ў высказваньнях і прамовах дзяржаўных мужоў Амэрыкі, а цэнная кніга Джэмса Бэрнгэма спаткалася з кнігарскім байкотам. Шляхотныя прынцыпы палітыкі вызваленьня ўступілі месца далёкай ад шляхотнасьці заініцыяванай бальшавікамі палітыцы коэгзыстэнцыі коштам вызнаньня й замацаваньня нявольніцтва вялікай колькасьці народаў Савецкага Саюзу й сатэлітных краінаў.

Такім чынам аб вызваленьні паняволеных бальшавізмам народаў ад 1952 году ў заходняй палітыцы было глуха. Тэма гэтая сталася ня моднай, навет няпрызваітай і непажаданай. Ува ўсіх заходніх краінах яе стараліся не ўспамінаць, каб не дражніць крэмлёўскіх верхаводаў і ня псуць коэгзыстэнцыяльнай атмасфэры.

У вапошнім, аднак, часе справа вызваленьня, праўда, толькі сатэлітных краінаў, а не народаў Савецкага Саюзу — знайшлася ўзноў на парадку дня міжнароднае палітыкі. Пры гэтам характэрна, што пытаньне гэтае было справакаванае Саветамі, апошнімі палітычнымі ходамі Крэмля, якія змусілі Захад, паміма ягонай волі, зактуалізаваць справу вызваленьня сатэлітных краінаў, як найважнейшы аргумэнт у ягонай палітычнай ігры з Саветамі.

У міжнародных палітычных падзеях заіснавалі два мамэнты, якія сталіся прычынамі, што канцэпцыя вызваленьня сатэлітных краінаў сталася ўзноў актуальнай.

Адным такім мамэнтам зьяўляецца новы савецкі плян стварэньня нэўтральнага пояса дзяржаваў, які аддзяляў-бы камуністычны блёк ад дэмакратычнага Захаду і быў-бы гарантыяй узаемнай бясьпечнасьці і перадумовай трывалай коэгзыстэнцыі між Захадам і Ўсходам. Гэты нэўтральны пояс, паводля савецкай вэрсіі, меў-бы абыймаць Фінляндыю, магчыма Швэцыю, Усходнюю й Заходнюю Нямеччыну, нэўтральную ўжо Аўстрыю і Югаславію, дзе, як ведама, цяпер госьціць савецкая дэлегацыя на чале з Хрушчовам, Булганінам і Мікаянам, ды, пэўне-ж намагаецца сьхіліць гэтую, важную із стратэгічнага палажэньня, краіну да прыняцьця савецкага пляну.

У вадказ на гэты савецкі плян, які, у выпадку ягонага зрэалізаваньня, пацягнуў-бы да паўстаньня абароннай сыстэмы Заходняе Эўропы й прымусіў-бы Амэрыку зьліквідаваць свае абаронныя базы на тэрыторыі Заходняй Нямеччыны, Захад выступіў із собскім контрпраектам. Паводля гэтага контрпраекту, Захад мог-бы згадзіцца на стварэньне такога нэўтральнага пояса пад умовай, што, апрача пералічаных Саветамі краінаў, ён быў-бы пашыраны і на сатэлітныя краіны, у першую чаргу на Польшчу й Чэхаславаччыну. Практычная вартасьць гэтага заключалася-б у тым, што Саветы перасталі-б умешвацца ў нутраныя справы гэтых краінаў, вывялі-б зь іх свае войскі, а народы гэтых краінаў шляхам узапраўды свабодных дэмакратычных выбараў маглі-б выбраць урады і ўстанавіць дзяржаўныя формы, якіх яны жадаюць. Іншымі словамі сатэлітныя краіны пазбавіліся-б савецкай апекі і сталіся-б поўнасьцю незалежнымі за цану нэўтральнасьці.

Справа такога вызваленьня сатэлітных краінаў шляхам пашырэньня на іх нэўтральнага пояса шырака камэнтуецца ў заходняй прэсе й знаходзіць шмат прыхільнікаў. Прэзыдэнт Айзэнгаўэр і міністар замежных справаў ЗША Джон Фостэр Дальлес высказаліся афіцыяльна, што яны пытаньне вызваленьня сатэлітных краінаў паставяць на парадку дня будучай канфэрэнцыі вялікай чацьвёркі.

Праўда, гэты заходні праект спаткаўся зь вялікім абурэньнем у Савецкім Саюзе. У сувязі зь ім маскоўская «Праўда» нядаўна ў вельмі войстрым тоне заатакавала Захад, падчыркваючы, што ня можа быць і мовы аб уключэньні сатэлітных краінаў у нэўтральны пояс дзяржаваў, а ў сваей сьвежай ноце да заходніх вялікадзяржаваў савецкі ўрад, паведамляючы аб сваей згодзе на склікаўньня канфэрэнцыі чатырох, нядвузначна заяўляе:

**«Амэрыканцы пасунуліся так далёка, каб рабіць асьветчаньні на тэму канечнасьці ўмешваньня ў нутраныя справы іншых народаў, і рабіць рознага роду напады на народныя дэмакрацыі, якія бароняць свабоду і незалежнасьць сваіх народаў».**

І далей савецкая нота перасьцерагае:

**«У гэтых умовах спатканьне чатырох вялікадзяржаваў ня толькі не дало-б пазытыўных вынікаў, якіх чакаюць народы, але наадварот, прыгатаваны ўжо развал канфэрэнцыі прывёў-бы да далейшага паглыбленьня разыходжаньняў між вялікадзяржавамі і пагоршаньня міжнароднай сытуацыі».**

З гэтага савецкага асьветчаньня вынікала-б, што Савецкі Саюз у ніякім выпадку ня згодзіцца навет і гутарыць аб вызваленьні паняволеных ім сатэлітных краінаў. З другога боку ведама, што, як мы пісалі ў папярэднім нумары, Амэрыка дала гарантыі бонскаму ўраду, што яна ня згодзіцца на нэўтралізацыю Заходняй Нямеччыны. Гэта ня ў меншай меры, чымся асветчаньне савецкага ўраду ў ягонай ноце, прамаўляла за тым, што на канфэрэнцыі чатырох ня будзе дасягнутая згода ў справе стварэньня нэўтральнага пояса дзяржаваў.

**(Заканчэньне на 4-ай бачыне)**

# Беларусь „засейваецца“

Ужо ад каторага часу над Беларусяй з усіх пашчаў прапаганды — з газэт, часапісаў, радыя й вуснаў агітатараў — суцэльным патокам гучаць парадаксальныя заклікі: партыя ўгаворвае беларускага земляроба засейваць зямлю... Але бяда там, дзе селянін даведзены да такога стану, каб угаворваць яго ўвесну выходзіць у поле. Бяда ня толькі сялянству, — бяда цэламу краю. І бяду гэтую цяпер прапаганда хоча перакрычаць на Беларусі. Аднак і ў крыку ейным крычыць бяда. Вось хоць-бы сабе ў перадавіцы «Зьвязды» (6. 5. 55) з клічнікам на канцы: «Усе сілы — на пасьпяховае правядзеньне сяўбы!»:

**Да 1-га траўня — ніводнага гактару**

«Шмат якія раёны, — крычыць „Зьвязда“, — недапушчальна адстаюць з разгортваньнем палявых работ, вядуць іх на нізкім агратэхнічным узроўні.

«Узяць Віцебскую вобласьць. Паводля стану на 1-га траўня тут ня было пасеяна ніводнага гактару раньніх збожжавых культур. Далёка незавершанае ў вобласьці й веснавое падкормліваньне азімых пасеваў...

«Вось, напрыклад, Мехаўскі раён. Тут не паклапаціліся навет аб сваечасовай падрыхтоўцы глебы, насеньня і ўгнаеньняў да сяўбы, ня прывялі ў спраўнасьць усіх машын і інвэнтару МТС і калгасаў. Такое-ж становішча і ў Сеньненскім, Лепельскім і Бешанковіцкім раёнах.

**Трактары на буксірах**

«Адзіная ў Іўеўскім раёне МТС, правальвае сяўбу. У калгасах імя Маленкава, «Радзіма», імя Молатава і іншых трактары прастойваюць з-за розных тэхнічных непаладак, з-за перабояў у дастаўцы гаручага, з-за адсутнасьці патрэбнай колькасьці прычэпшчыкаў. Некаторыя трактары пасьля «рамонту» былі дастаўлены зь сядзібы МТС у калгасы на буксірах...» і г. д., і г. д.

✳

Палавіна перадавіцы, як і палавіна цэлае газэты — гэта заклікі, угаворваньне, цкаваньне, лёзунгі. Але чалавек прывыкае да ўсяго. Прывык і да гэтага за трыццаць зь лішнім год.

Цяжка ўявіць сабе ўсю катастрофу веснавое сяўбы на Беларусі. Але навет прапушчаныя цэнзурай фрагмэнты з гэтага пасяўнога хаосу ўжо говораць самі за сябе. Вось пару кур'ёзных эпізодзікаў, узятых із «Зьвязды» за 11-га траўня (гл. артыкул «За высокую арганізаванасьць на веснавой сяўбе»):

**Хто каго перачакае?**

«Раніца. Сонца ўзьнялося высока, а ля сьвірнаў калгасу «Савецкая Радзіма» (Гарадзішчанскі раён) ня відаць ніводнага чалавека. Кладаўшчык і вожчыкі збожжа, замест таго, каб хутчэй адпраўляць насеньне на поле, пахаджваюць па вёсцы й чакаюць, пакуль загудзе трактар у полі. А трактарыстыя тым часам сядзяць дома і пазіраюць у вокны, ці хутка пакажуцца фурманкі з насеньнем.

«У гарачы час палявых работ у калгасе прастойваюць трактар, сеялкі... Большая частка збожжавых пасеяна ўручную. Да чаго ўсё гэта прыводзіць, ужо цяпер пераконваюцца калгасьнікі.

**Вераб'і ў гаросе**

«...Па нявысокім прыгорку павольна йдзе стары калгасьнік Рыгор Паляшук. Ён памахвае пугай і кагосьці палохае:

«— Вось я табе дам...

«— Вы на каго крычыцё, дзед? — пытаецца брыгадзір другое паляводчае брыгады Кастусь Паляшук.

«— На вераб'ёў, на варон!...

«Справа, аказваецца, сур'ёзная. 27 красавіка брыгада пасеяла 7,5 гактараў гароху. Сеялі яго ўручную. На другі дзень ударыў лівень, і амаль усё насеньне аказалася на паверхні. Калі распагодзілася, птушкі роем накінуліся на гарох...

«Чаму гарох сеялі ўручную? Брыгадзір дае на гэта свае тлумачэньні. Гарох любіць раньнюю сяўбу. А як пускаць на поле сеялку, дзе поўна ямаў ад былых акопаў і траншэяў. Брыгадзір вырашыў сеяць гарох уручную. а ў выніку больш за палавіну насеньня сабралі птушкі.»

**Трактары бязь сена**

«2 траўня ў калгас прыехаў першы сакратар Гарадзішчанскага райкому партыі тав. Балодчанкаў. Сустрэўшы старшыню праўленьня тав. Кур'яна, ён запытаўся:

«— Як сяўба?

«— Дрэнна... Трактары стаяць.

«— Упрагайце ў работу коней!

«— Слабыя яны пасьля зімы...

«— А я што казаў... Шануй коней, яны першая дапамога тэхніцы.»

**З насеньнем ня штука, папрабуй безь яго!**

«Зараз, калі трэба сеяць, аказваецца, што ў калгасе імя Варашылава не хапае насеньня на 196 гактараў. У калгасе «Сталінскі шлях», імя Панамарэнкі да гэтага часу не абмалочаны насенны лубін.

«Калгасы раёну ня выкарыстоўваюць сваіх магчымасьцяў для нарошчваньня тэмпаў сяўбы. Да 5 траўня тут пасеяна 21,7 працэнтаў яравых культур — амаль удвая менш, чым у мінулым годзе».

✳

Усё гэта аднак ня перашкодзіць савецкім статыстыкам падаць крыху пазьней стопрацэнтныя дадзеныя аб веснавой сяўбе на Беларусі, а ў тым ліку і ў Віцебскай вобласьці, і ў Гарадзішчанскім раёне, і падаць іх з такім-жа галасам і крыкам, зь якім цяпер барабаніцца аб немалочаным лубіне, вераб'ёх на гаросе і нядошлых калхозных конях.

**Р. Л.**

# Беларуская савецкая кінахроніка

Звычайна ўсюдых гаворыцца, што дакумэнтальныя й хранікальныя фільмы прадстаўляюць запраўдныя падзеі сучаснай рэчаіснасьці. Гэтак і павінна быць. Гэтак разумеюць кінахроніку па ўсім сьвеце. Зусім інакшае бачым у савецкай краіне.

У Менску яшчэ перад другай сусьветнай вайной апошнія пяць год актыўна працавала студыя Белдзяржкінахронікі. Напачатку рабілі кінажурналы толькі адны апэратары. Фільмы былі тэхнічна дасканалыя і праўдзівыя зьместам. Ажно дырэкцыя студыі знайшла палітычную небясьпеку і таму паставіла над апэратарамі палітрукоў кінамастацтва. У 1937 годзе ў студыю кінахронікі былі запрошаны рэжысэры з маскоўскае кінафабрыкі. Як відаць, беларускім кінарэжысэрам ня вельмі давяралі. Напалоханыя частымі арыштамі нацдэмаў, кіраўнікі страхавалі сябе ад нацыяналізму.

У Менскую студыю прыехалі два маладыя рэжысэры — Стральцоў і Зьвягін. Абодвы яны ня ведалі ані беларускае мовы, ані спэцыфікі мясцовага быту. Ня гледзячы на гэта, яны добра дагаджалі начальству, бо ўмелі бессорамна маніць. І хіба гэта не нахабная мана, калі рэжысэр Стральцоў здымае сфальшаваны фільм аб стаханаўцу-работніку з заводу «Бальшавік»!? У работніка дрэнныя жыльлёвыя ўмовы. Ён мае малы пакойчык, у якім цёмна й няўтульна. Тут рэжысэр разьвязвае праблему, адкідаючы сваё сумленьне. Стаханаўца фільмуюць у чужой прасторнай, добра абсталяванай кватэры. Мяккая мэбля, шафа з кнігамі, радыёапарат. На стале — піраг, яблыкі, цукеркі.

Голас дыктара гучыць з экрану: «Шчасьлівая сям'я стаханаўца жыве ў сацыялістычным дабрабыце.»

Далей, на ўрачыстым банкеце гаворыць сам стаханавец. І навет ягоная прамова, загадзя падрыхтаваная і запісаная на йстужку, пасьлей кардынальна зьмяняецца ў сваім зьмесьце.

Рэжысэр Стральцоў незадаволены прамовай работніка.

— Залішне наплёў! — абураецца Стральцоў. — Усё добра было-б, каб ня тая мясьціна няўдалага сказу: «Наша дачка вучыцца ў Маскве, працуе там, зарабляе і яшчэ нам, бацьком, высылае што месяц грошы». Ну, які ён стаханавец, калі патрабуе ад дачкі матар'яльнае дапамогі. Не, так пусьціць прамову ня можна.

Стральцоў сядае за мантажны стол і пераглядае тэкст, потым падыходзіць да мавіёлы — спэцыяльнай кінапрылады, — прапушчае йстужку.

«Дачка вучыцца ў Маскве». Гэта добра! А далей... «працуе там, зарабляе і яшчэ нам, бацьком»... Стоп — ня добра! Трэба рэзаць! Далей ідзе «высылае што месяц грошы»... Гм! Гэта можна пакінуць, але ўперадзе паставім два словы: «бацька ёй». Гэтыя паасобныя словы можна ўзяць з выразанага агульнага тэксту. І вось пачынаюцца пошукі гэтых слоў. Наклейваюцца маленечкія адрэзкі йстужкі. Ня толькі перастаўляюцца сказы, але й паасобныя склады ў слове, каб змантаваць патрэбны сказ.

Пасьля доўгай маруднай працы тав. Стральцоў трыюмфуе: прамоўца гаворыць тое, што хоча майстра кінаматаграфіі. Гэтак паказваюць стаханаўца з экрану.

З падобнай хлусьнёй, поўнай нязьмернага цынізму, таксама паказваецца й заможнае жыцьцё калгасьніка. Шырока рэклямуецца калгасная конегадоўля. Пляменныя жарабцы, моцна закелзаныя, выводзяцца із стайні. Яны ірвуцца, становяцца надыбкі, спад цугляў падае пена.

Дыктар паясьняе, што «толькі, дзякуючы партыі й вялікаму Сталіну калгас імя І-га Мая выйшаў на першае месца ў справе развіцьця канегадоўлі».

Невядома толькі, ці бачылі гэты фільм у калгасе «І-га Мая»? Ніколі там ня было такіх дужых, сытых коняў. Адкульжа яны ўзяліся? Прыгледзяцца калгасьнікі і стане зусім зразумела — коні з саўгасу, з конскага заводу. Як шыла зь мяшка, вылазіць круцельская махінацыя кінорэжысэра.

Пры дапамозе нажніцаў выстрыгаецца няўдалы кадр зь кінайстужкі, перастаўляюцца іншыя, дадаюцца новыя.

Вось другі прыклад. Здымаецца чырвонае вясельле ў калгасе. Рэжысэр падрыхтоўвае да гэтага свае трыкі. Прывозіць з сабой пляшку шампанскага і вялікі букет ружаў. Бачыце, маладыя п'юць савецкае шампанскае! На стале кветкі. Вось яно, заможнае калгаснае жыцьцё! Старшыня калгасу дае маладым багаты падарунак — новы, прыгожы патэфон. У маладых шчасьлівыя, радасныя твары.

Задаволены ўдалай кіназдымкай, рэжысэр вяртаецца ў Менск, забіраючы з сабой і пачатую пляшку шампанскага, і букет ружаў. Кветкі з падхалімствам прэзэнтуюцца дырэктару кінахронікі.

У сяброўскай кампаніі за пляшкай віна, той пляшкай, што адгуляла пэўную ролю ў фільме, рэжысэр казаў апэратару:

— Ты бачыў, якія вясёлыя, радасныя твары былі ў маладых! Безь мяне ты, брат, ня мог-бы зрабіць гэтага. Ня ўсе людзі — акторы. І калі-б мы папярэдзілі маладых, што віно, кветкі й патэфон ня ёсьць запраўдным падарункам, ня было-б таго цудоўнага эфэкту, ня было-б шчасьлівых усьмешак. Пасьля кіназдымкі яны даведаліся, што й патэфон забяруць ад іх назад, бо гэта клюбная маёмасьць. Якая цяпер у іх усьмешка — мяне, рэжысэра, ня цікавіць.

Сьмешна й сумна! Да якой нізкасьці дайшлі савецкія кінарэжысэры. Тонкая, хітрая фальсыфікацыя хаваецца ў кажным хранікальным фільме.

Вось эпізод з ваеннай тактыкі. Праз густы лес паўзуць савецкія танкі. Падаюць вялічэзныя тоўстыя дрэвы. Ніхто ня можа ўстояць перад бранявою сілаю. У запраўднасьці — загадзя падпілаваныя хвоі Падсечаныя камлі й пілаваньне добра замаскаваныя — прыкрытыя травою й вецьцем. Вочы гледача ня бачаць подлае таямніцы. Застаецца глыбокае ўражаньне магутнасьці й сілы савецкіх танкаў.

Калі йдзе гутарка аб беларускай садавіне, фільмуюць звычайна старыя сады былых панскіх маёнткаў. Гэтыя сады запушчаныя, недагледжаныя, але ня згубілі яшчэ багатай ураджайнасьці. «Саўгасы вырошчваюць добрыя йгрушы й яблыкі» — гаворыць дыктар. На экране ў буйным пляне экспануюцца сакаўныя бэры, наліўныя антонаўкі, якія цяжка зьвісаюць з галінаў. Адзіная праўда — гэта паказ прыроднае красы нашае Беларусі. Нажаль, той сад незадоўга пасьля кіназдымкі быў сьсечаны і на тым месцы пабудаваны новы аэрадром.

Гэтак скрозь сфальшаваныя ўсе фільмы кінахронікі.

Маскоўскія рэжысэры ў Менску актыўна працавалі. Яны сароміліся лгаць перад беларускім народам. Студыя Белдзяржкінахронікі заахвочвала іх у гэтым вялікімі грашовымі ўзнагародамі й дадатковымі прэміямі. Рэжысэры выслужваліся. У 1941 годзе, дзесьці на Палесьсі, на мэльярацыйных дзялянках таварышы Стральцоў і Зьвягін фальшавалі новы, гэтак званы «дакумэнтальны» фільм. Выдуманыя камбінацыі хлусьні аб бальшавіцкіх тэмпах асушкі балотаў, аб свабоднай радаснай працы паляшукоў рэжысэры кінахронікі абмеркавалі загадзя ў сваім пляне — сцэнарыі. Выканаць заданьне ім не ўдалося. Вайна захапіла іх у самым разгары працы і там яны бязь сьледу загінулі ў балотах.

Аднак і сяньня ў беларускай кінахроніцы той самы шаблён. Цяперашнія менскія рэжысэры Шульман і Вэйнбэрг куды больш дасканалыя майстры ў тэхніцы ашуканства й маны. Савецкія круцялі маюць шматгадовую практыку.

**К. Рамановіч**

# Дыскусія яшчэ ня скончаная

«Скончма (дыскусію) ў тым значэньні, што давядзем яе да яснага, пераконваючага канца». Гэтак пачынае свой артыкул Брачыслаў Скарыніч у «Бацькаўшчыне» № 249, намагаючыся паставіць пункт пад дыскусіяй пра «распакоўваньне».

На актуальнасьць і важнасьць узьнятага пытаньня паказвае ўжо той факт, што яму за апошнія некалькі месяцаў прысьвечана ў «Бацькаўшчыне» 8 артыкулаў ці фэльетонаў. Гэта ня так ужо мала, і трэба прызнаць, што дыскутаваная праблема папоўнілася насьвятленьнем новых аспэктаў, ці прынамся — новых сумлеваў.

Характэрна, што сучасная польская эміграцыя прысьвяціла гэтаму-ж пытаньню «распакоўваньня» цэлыя гады; адзін паважны часапіс правёў навет вялікую анкету з апытаньнем шырокіх колаў свае эміграцыі. Не забываймася-ж, што польская палітычная эміграцыя мела ўжо двух паважных папярэднікаў на працягу мінулага стагодзьдзя, якія пакінулі ёй нямала практычных запаветаў. Гэта аднак ня зьменшыла для яе вайстрыні праблемы. Таму не зашкодзіць і нам перадыскутаваць раз узьнятае пытаньне як мага больш грунтоўна. Тым больш — хай ня возьме мне гэтага за дрэннае пав. Бр. Скарыніч — што дасюлешні «канец» не такі ўжо ясны й пераконваючы.

Разгледзім у храналягічным парадку высунутыя сумлевы й цьвярджаньні.

Із «Сумлеваў» («Б-на» № 225—226), што выплылі спад пяра пс, вынікае, што трэба распакоўвацца зь цьвёрдай думкай, каб у пару спакавацца зноў». Крыху няясна, як гэта мае выглядаць у практыцы. Аўтар таксама кажа, што «маем столькі прыкладаў, калі навет другое ці трэйцяе пакаленьне эмігрантаў захоўвае прывязаньне да краю, зь якога выйшлі ягоныя дзяды».

У «Ці маем права» («Б-на» № 229—230) А. Будзіч дзеліць распакаваньне на матар'яльнае (зь небясьпекай, што яно можа стацца **саладухай**, як зазначае сам аўтар) і духовае. З захаваньнем пэўных асьцярожнасьцяў, першае — зьява пазытыўная, другое-ж — адмоўная й недапушчальная.

У нашым артыкуле «Сумлевы й пэўнасьць» (№ 233), мы стараліся зьвярнуць увагу на шматбаковасьць праблемы ды на спэцыфічнасьць яе для нас — Беларусаў»... І для нас, — пісалі мы, — разьвязаньне яе можа быць розным у залежнасьці ад пэўных фактараў. Ніхто не пярэчыць неабходнасьці матарыяльнай базы, калі яна не зьяўляецца этапам да поўнага распакаваньня. Найлепшы выхад падыктуе нам наша нацыянальнае сумленьне...» Там-жа мы папрабавалі зрабіць аналізу нашага спэцыфічнага палажэньня ды розных галінаў нашай нацыянальнай дзейнасьці — факты, якія трэба браць пад увагу пры шуканьні разьвязкі. Падзел наш быў вельмі агульны, і мы ня зьбіраліся даваць канкрэтных рэцэптаў паасобным адзінкам, што закідае нам пав. Бр. Скарыніч. Найлепшы довад — гэта вышэй прыведзеная вытрымка.

Галоўная тэза Язэпа Каранеўскага («Сумлеваў быць ня можа», № 234-235 гэта патрэба як мага аддаліць асыміляцыю з поўным духовым распакаваньнем. Мяшаныя сем'і, прыняцьце чужой дзяржаўнай прыналежнасьці, прысыпляюць гэтае распакаваньне. «Заданьнем нашых грамадзкіх і палітычных дзейнікаў зьяўляецца станоўча супрацьдзейць усім тым пачынаньням нашай эміграцыі, якія прысыпляюць працэс іхнае асыміляцыі. Супрацьдзейць навет у тым выпадку, калі-б было гэта із асабістай шкодай для дадзенага эмігранта ці групы эмігрантаў, бо карысьць для справы агульнай мы павінны ставіць вышэй за спрычыненую ёй шкоду асабістую...»

В. Лазука прысьвяціў гэтаму пытаньню (ці выкарыстаў яго, каб напісаць) фэльетон («пс... ды ў чамадан», № 238). Ягонае становішча яснае: «...праўдзівы шлях — гэта распакоўваньне». Ён не марнуе часу на аналізу гэтага распакоўваньня, і адразу робіць сынтэзу, так прыгожую ў тэорыі: «Уладзіцца на эміграцыі — вызваліць Бацькаўшчыну». Дзеля гэтае мэты служаць і чужая дзяржаўная прыналежнасьць, і мяшанае жаніцтва, і зьбіцьцё капіталу. Усё пералічанае — незалежна якой цаной. Цяжка запярэчыць, што гэта дазваляе ўладзіцца на эміграцыі. Можа-б сп. Лазука падзяліўся з намі сваёй практыкай, як гэта памагае вызваляць Бацькаўшчыну? . .

«Бо дзе скарб ваш, там будзе й сэрца вашае» (Мацьв. 6, 21). Гэтым эпіграфам пачынае свой артыкул С. Клім («Што рабіць?», № 240). Чытач адразу падрыхтаваны да вывадаў, што матарыяльныя багацьці ў шмат якіх выпадках адцягваюць чалавека ад вышэйшых ідэялаў. Гэтае вельмі праўдзівае цьверджаньне мы знаходзім шмат разоў у Евангельлі. Аднак у гэтым выпадку, эпіграф задуманы, каб давесьці ледзь не адваротнае. Аўтар прыводзіць прыклад Жыдоў у Бабілёне, якія сабраўшы там вялікія багацьці, адбудавалі сваю зруйнаваную краіну пасьля павароту з эміграцыі. Пры ўсёй ахвоце, цяжка правесьці аналёгію між Жыдамі ў Бабілёне і нашай эміграцыяй — навет у Зл. Штатах... Аўтар, хіба, згодзіцца, што адносна гандлёвых здольнасьцяў, Беларусы ня могуць цягацца з Жыдамі. Хіба таксама ня варта сабе ўяўляць, што наша эміграцыя здолее сабраць такія матарыяльныя багацьці, каб пры іхнай дапамозе паставіць на ногі зруйнаваную гаспадарку краіны? .. Ці гэтакі падыход рэальны?

Цьверджаньне, што галоўная ўмова карыснасьці для нацыянальнай справы — гэта заўсёды насіць у сэрцы Бацькаўшчыну, паўтараем мы ўсе, і да гэтага на ўсе лады. Мы-ж шукаем формаў — зразумела, што ў розных абставінах і для розных катэгорыяў гэтыя формы будуць розныя — якія далі-б максімальныя вынікі ў працы й змаганьні за нашы ідэялы. Абмежавацца ўладжваньнем сваіх асабістых справаў ды чаканьнем на беларускіх кангрэсмэнаў мы ня можам. Ня трэба забывацца, што колькасна нашы сілы вельмі абмежаваныя. Вось чаму дыскусія што да мэтазгоднасьці тых ці іншых крокаў будзе заўсёды карысная.

Аднэй з мэтаў нашага папярэдняга артыкулу было яшчэ раз падкрэсьліць, што вельмі часта матарыяльнае «распакоўваньне» крые ў сабе вялікую небясьпеку — асабліва, дазвольце дакінуць, у такой краіне, як ЗША. У некаторых матарыяльны бок пачынае быць адзіным рухавіком дзейнасьці, адпіхаючы ўсё далей і далей грамадзкія й нацыянальныя інтарэсы. І ў гэтым няма нічога дзіўнага, «бо дзе скарб ваш, там будзе й сэрца вашае».

І ўрэшце — артыкул Б. Скарыніча. Затрымаемся над ім ня толькі таму, што лічым патрэбным падаць пэўныя ўдакладненьні што да пагляду, выказаных у нашым папярэднім артыкуле, але й таму, што для нас, і напэўна ня толькі для нас, шмат якія цьверджаньні Бр. Скарыніча не зьяўляюцца ні яснымі, ні пераконваючымі.

Насамперш — ня ўсе выказаныя думкі трэба браць дасло́ўна, па літары. Першае, што закідае нам сп. Скарыніч — гэта асуджаньне тых інтэлігентаў, што купляюць фармы. Няцяжка дагадацца, што ферма служыла нам вельмі агульным сымбалем для інтэлігентаў, якія адыходзяць ад актыўнай грамадзкай працы, турбуючыся толькі аб сваіх собскіх інтарэсах. Для гэтага, зразумела, неабавязкова мець ферму — можна працаваць і на хвабрыцы, ці навет мець «інтэлігенцкую» работу. Па прыклады далёка хадзіць ня трэба. Навет і цяпер існуюць платныя становішчы, вельмі важныя з нацыянальнага гледзішча. Выбар на гэтыя становішчы аднак вельмі абмежаваны з тэй простай прычыны, што людзі ня хочуць «рызыкаваць».

Далей сп. Скарыніч кажа, што Беларусы ў Амэрыцы «дамкоў пакуплялі ладне». Вельмі пахвальна! Нельга таксама не згадзіцца зь цьверджаньнем, што «чым лепшае матарыяльнае палажэньне сьведамага Беларуса, тым болей ад яго можна спадзявацца карысьці нашай справе... Спадзявацца мы можам — гэтага нам ніхто не забароніць. Але што паказвае практыка? **Грамадзкіх** дамкоў мы ў ЗША ня бачым. Хай-бы іх было ўжо ня «ладне», а хоць адзін... Або ці сп. Сарыніч лічыць нармальным факт, што некаторыя радныя БНР, маючы на банкавым конце па некалькі тысяч, ня плацяць навет месячных складак? Якое яшчэ карысьці можна ад іх спадзявацца?

Сп. Скарыніч таксама даводзіць, што з прыняцьцем чужое дзяржаўнае прыналежнасьці, моладзь яшчэ ня страчана для беларускага войска. Усе мы жадалі-б ад цэлага сэрца, каб так было. Сумлевы аднак застаюцца, і то вельмі паважныя. Нашы нацыянальныя дзейнікі з поўным правам могуць дамагацца заснаваньня беларускіх аддзелаў, аднак цяжка спадзявацца, каб іншыя дзяржавы пазычылі нам сваіх грамадзянаў, хоць-бы яны былі Беларусамі з паходжаньня. Праўда, у вапошнюю вайну былі зарганізаваныя вайсковыя часткі з Амэрыканцаў японскага паходжаньня, але пасланыя яны былі на барацьбу супраць Немцаў. Хіба сп. Скарыніч згодзіцца, што калі-б у будучыні Амэрыканцаў беларускага паходжаньня паслалі змагацца напрыклад зь Кітайцамі, дык гэта ня было-б вельмі мэтазгодным з нашага нацыянальнага гледзішча.

Мы былі далёкія ад цьверджаньня, што ніхто зь сяброў Рады БНР не павінен старацца грамадзянства — мы выказалі толькі сваю (і ня толькі сваю) думку, што факт сяброўства Рады БНР людзей з чужой дзяржаўнай прыналежнасьцю, гэта факт ненармальны. Сп. Скарыніч піша: «Лёяльнасьць да Задзіночаных Штатаў не калідуе зь лёяльнасьцяй да беларускай справы». На шчасьце, гэта так, і дай Божа, каб так

**(Заканчэньне на 3-яй бачыне)**

# Ен быў на Беларусі ў 1954 годзе

Юрка Туркевіч нарадзіўся ў Францыі, куды 30 год таму бацькі ягоныя прыехалі на заработкі. Там яны жывуць і цяпер. Сын іхны атрымаў францускую адукацыю і цяпер зьяўляецца студэнтам Інтытуту Ўсходніх Моваў. Ён гутарыць паўкраінску і парасейску. Калі ў 1954 годзе Нацыянальным Саюзам Студэнтаў Францыі фармавалася дэлегацыя францускіх студэнтаў для наведаньня Савецкага Саюзу, на запросіны Маскоўскага Антыфашыстаўскага Камітэту моладзі, Ю. Туркевічу няцяжка было папасьці ў склад гэтае дэлегацыі. 19 верасьня 1954 году разам з дэлегацыяй ён выехаў з Парыжу ў СССР.

Свае ўражаньні з падарожжа па СССР Ю. Туркевіч зьмясьціў у украінскім рабочніцкім месячніку «Впэрэд» («Наперад»), у нумарох за сакавік і красавік сёлета. «Я рэгістраваў толькі тыя ўражаньні, — піша Туркевіч, — якія кідаліся мне ў вочы як францускаму чалавеку, як чужынцу.»

Тут мы хочам падаць нашым Паважаным Чытачом тыя мясьціны з уражаньняў Ю. Туркевіча, якія беспасрэдна краналі Беларусь, а ў прыватнасьці горад Берасьце.

Гэтак, у красавіковым нумары «Впэрэд» мы чытаем:

«Пад'яжджаем да станцыі Берасьце. На пляцформе нас ужо чакае маса дзяцей ад 8 да 14 год з кветкамі, а таксама прадстаўнікі камсамолу, што прыймалі нас. Мы пайшлі вакол станцыі цераз розныя выбоіны з вадою, абмінаючы іх, каб не захляпацца. Мо таму, што тут адбываецца нейкія перабудовы, але ўвесь час нам прыходзілася мець дачыненьне з лужынамі, поўнымі бруднае вады. Каб дабрацца да рэстарану, трэба было пераходзіць праз рэйкі, бо тут няма пераходаў над ці пад зямлёй. У месяцы няма добрага тратуару, яго бадай зусім ня йснуе, і людзі ходзяць ледзь не па дарозе. Дарога выкладзена круглымі неабробленымі каменьнямі.

«Мы перайшлі праз парк імя І-га траўня. Пры ўваходзе — памятнік; вялікія плякаты, што заклікаюць да падвышэньня прадукцыйнасьці працы, да пабольшаньня паставак мяса, масла й пад. Усюды галосьнікі трубяць у вушы розныя заклікі, цытаты з «Праўды» й падобнае. Наагул з пазьнейшых вандровак мы вынесьлі ўражаньне, што гэта край галосьнікаў. Станцыя Берасьце яшчэ поўнасьцяй не адбудована, але ёсьць ужо памятнікі Леніна й Сталіна ды партрэты Маленкава, Молатава, Кагановіча й інш.

«Яшчэ перад наведаньнем места мы адбылі сустрэчу з тымі, хто нас прыймаў, ды добры абед. Сустрэча адбылася ў вялікай залі на станцыі. Нас акружыла дзяцярня й камсамольцы. Зь мной гутарылі школьнікі 5-ае й 6-ае клясы Дзівіліся, што я гавару парасейску ды паўкраінску. Мяне акружылі дзяўчаты й пачалі засыпаць пытаньнямі. Аднак пытаньні былі банальныя: дзе вучыцеся, што робіць родныя, колькі год вывучаеце расейскую мову, ці гэта ваш фотаапарат... Сустрэча трывала 15-20 часін. Калі мы адыходзілі, нам папрышпільвалі значкі: каму чырвоная зорка зь літарамі БЛКСМ (камсамол), мне прышпілілі з жоўтага мэталю якар з трыма зялёнымі каменчыкамі.

«Далей нас павялі на першы паверх у салён, дзе мы маглі нарэшце паставіць кучы кветак, якімі нас панадорвалі. Там мы гутарылі з прадстаўнікамі камсамолу. Пасадалі на канапах. Усе хочуць пачуць што-небудзь пра Францыю. Кіраўнік камсамолу сыціплы ціхі Беларус выглядаў больш чымся бедны ў гэтым сьвеце. Ён мне сказаў, што калі я гутару паўкраінску, то магу гаварыць і на гэтай мове. Мы йшчэ зь ім сустрэнемся 15-га кастрычніка пры павароце назад, і мы зь ім удвох будзем абедаць. Гэта аўтэнтычны Беларус, а прозьвішча ягонае Бядула. У салёне распытваліся ў нас, колькі трываюць студыі ў Францыі, пра стыпэндыі. Гаварыў толькі я, ведаючы мову. Яны, відаць, падумалі, што я камуністы, бо папыталіся, ці я ведаю Морыса Торэза; таксама пра гэную Францускую, што легла на чыгунку, па якой меліся везьці зброю ў Індакітай. Калі выявілася, што пра гэты выпадак я ня ведаў, яны вырашылі, што я ткі не камуністы.

«Пайшлі абедаць у вагон-рэстаран. Зноў выбоіны, лужыны... Нас частавалі рознымі кабасамі, лёгкімі стравамі, боршчам із сьмятанай, нарэшце курачым мясам... Быў добры дэсэрт, давалі лімонаду й фруктовыя сокі з Грузіі...

«...Мы адчулі (гэта ўжо пасьля пабыту ў Маскве — заўвага нашая), што ёсьць значная розьніца між Расеяй і Польшчай (у Польшчы лепш) і што ёсьць другая зялезная заслона — між Польшчай і Расеяй...» гэта значыць хіба: «між Польшчай і СССР»).

Юрка Віцьбіч

# Плыве з-пад Сьвятое Гары Неман

**(Працяг)**

Нельга ўявіць сабе калішняга беларускага гораду або мястэчка бяз Жыдоў. Па дадзеных 1909 г. у Беластоку іх налічвалася 82% ад агульнае колькасьці жыхароў, у Берасьці — 73%, у Горадні — 64% і г. д. Яшчэ больш было іх у мястэчках, як напрыклад у Лапічах на Ігуменшчыне — 84%, у Карме на Гомельшчыне — 90%, у Янавічах на Віцебшчыне — 93% і г. д. Гэтая адсутнасьць прапорцыі паміж Беларусамі і Жыдамі залежыла не ад іх, а спрычыніліся да яе — сьпярша Рэч Паспалітая Польская, а потым Расейская імпэрыя. Апрача дыскрымінацыйнае рысы жыдоўскае аселасьці, паза якой Жыды ня мелі права жыць, ім, паводля іншага закону Расеі, забаранялася навет у межах іхнае аселасьці жыць у сельскіх мясцовасьцях. Калі дадаць да гэтага, што і ў гарадох ім спачатку дазвалялася сяліцца толькі ў «гэтта» — адмыслова прызначаным месцы, дык адразу прыгадваецца малюнак выдатнага мастака, віцебляніна Юлія Пэна — «Сьпіна старога Жыда». На гэтым малюнку пададзены ззаду стары, які ідзе няма ведама куды, сашчапіўшы за сьпіной рукі. Ягонага твару ня відаць, але досыць зірнуць на ягоную сьпіну, каб вычуць нявыказны цяжар, што ляжыць на сьпіне народу. У параўнаньні з гэтым малюнкам, блекнуць статыстычныя адсоткі і як паказальна, што стварыў яго, пазьней забіты бальшавікамі Пэн.

Ня ў прыклад іншым народам, Жыды не накінулі Беларусам ні аднаго свайго геаграфічнага назову, тыя, што маюць да іх дачыненьне, нададзеныя самымі Беларусамі. Паміж імі нельга абмінуць двух назоваў рэлігійнага паходжаньня — Школішча ў Магілёве і Кагальны Роў у Гомелі.

Паводля граматы караля Жыгімонта Трэйцяга ад 1626 г., магілёўскім Жыдам дазвалялася жыць толькі паза горадам у мясцовасьці, якая ад іхняе сынагогі атрымала назоў — Школішча. Пазьней у 1646 г. кароль Уладыслаў Чацьверты пацьвердзіў гэтую грамату. У 1654 г. за часы акупацыі Магілёва царом Аляксеем Міхайлавічам тутэйшым Жыдом загадалі пакінуць навет Школішча і перасяліцца адсюль у Польшчу, але па дарозе, яшчэ ў магілёўскім прадмесьці — Пячэрску іх бадай усіх перабілі стральцы. Аднак з часоў Жыгімонта і да часоў Сталіна праіснавала тая старая драўляная сынагога, ад якой паходзіць назоў Школішча.

У 1937 г. мне давялося наведаць магілёўскую сынагогу разам з Жыдам паводля свайго паходжаньня і выдатным нашым пісьменьнікам, узвышэнцам Зьмітраком Бядуляй. Мы доўга шукалі гэтую сынагогу, бо сустрэчныя не адказвалі нам на запытаньне аб ёй, а толькі, або падазрона аглядалі нас з галавы да ног, або пагардліва ўсьміхаліся — ёсьць, маўляў, недарэкі на сьвеце, што шукаюць сынагогу. Толькі калі Зьмітрок Бядуля пажыдоўску зьвярнуўся да старога з тэй-жа сьпіной, што на малюнку Пэна, ён ахвотна і падрабязна расталумачыў нам, як да яе патрапіць. І вось нарэшце праз адчыненыя насьцеж дзьверы мы ўваходзім у зьняважаную сьвятыню. За часы свайго існаваньня яна, сьціплая паводле свайго памеру, умяшчала мора людзкога гора, якое на сьвята Ём Кіпур пад гукі сьвяточнага рогу-шыфора асьвятлялася адвечнай надзеяй:

«Лшона Габоа Бійрушалайм!»
У наступным годзе ў Ярусаліме!

Унутры сынагога была размаляваная таленавітай рукой Шагала — прадзеда сучаснага, сусьветнага вядомага, мастака Марка Шагала, што калісьці дзесяцігадовым хлапчуком прыйшоў зь мястэчка Лёзна ў Віцебск, каб вучыцца ў Пэна. Нязвычайны наагул для сынагогаў сьценапіс тут, абыйшоўшы ўсе забароны, напоўніў будынак дарэшты незабытнай сымболікай біблійных прарокаў. Праз два гады мне давялося наведаць зноў Магілёў, але, сьпяшаючыся па знаёмай ужо дарозе да сынагогі, я на ейным месцы не пабачыў навет і падмурка. У 1938 г. яе разбурылі бальшавікі і ейныя бёрны парэзалі на калодзежныя зрубы. І калі думаеш цяпер пра сынагогу на магілёўскім Школішчы, дык заўсёды адначасна прыгадваецца закатаваны ў 1941 г. фашыстамі наш выдатны Зьмітрок Бядуля, які тады ў зьняважанай бальшавікамі сьвятыні наўзрыд плакаў.

Можа нідзе яшчэ на Беларусі гэтак побач ня выпукляліся нацыянальныя і сацыяльныя супярэчнасьці Расейскай імпэрыі, як у Гомелі. Бадай у самым цэнтры гораду ў лагчыне, па абодвух берагох бруднага ручаю, здаўна і да апошняе вайны існаваў Кагальны Роў, які ўпяршыню прыгадваецца ў 1649 г., калі казакі выразалі 1500 ягоных жыхароў-Жыдоў. І хаця пазьней у 1844 г. царскі ўрад скасаваў Кагал — жыдоўскае на рэлігійных падставах пабудаванае самакіраўніцтва, але Роў, дзе жылі вылучна Жыды, застаўся Кагальным. Яшчэ ў канцы мінулага стагодзьдзя тут забаранілі ўсякае будаўніцтва. Таму жудаснае ўражаньне пакідалі бяз усякага парадку сто з гакам год таму пабудаваныя хаціны зь дзіравымі, парослымі імхом стрэхамі. Яны ў розныя бакі пахіліліся, на палову да самых вакенцаў урасьлі ў зямлю і, як кульгавага падтрымліваюць мыліцы, гэтак іх падпіралі калы ды жэрдкі. Тут у галечы нараджаліся, у галечы жылі, у галечы паміралі. А над самым Кагальным Ровам узвышаўся прыгожы і вялікі палац гаспадара гораду Гомелю Паськевіча — графа Эрыванскага і князя Варшаўскага, самыя тытулы якога паходзяць ад прыгнечаных царызмам народаў. Вакол палацу раськінуўся, абгароджаны мурам, вялізны парк з гротамі, аранжарэямі, дзе ўзімку цьвілі хрызантэмы, ды вазёрцамі, на якіх плавалі лебядзі. Бліжэй да самага палацу былі помнікі з карарскага мармуру над магіламі ўлюбёных графа — князёўскіх сабакаў.

Калісьці ў далёкім дзяцінстве даўся мне ў знакі на ўсё жыцьцё напоўсьляпы скрыпач. На ім ня вопратка, а шкумацьцё. Ягоная хворая жонка, што засталася ў самай убогай хаціне мястэчка, ужо ня ў стане была залатаць латы на латах свайго мужа. Спыняючыся каля кажнай хаты, скрыпач іграе і пяе:

«Ідэл міт зэйнэм фідэл
Эр ёт мільёнэн гэлд.»
(Жыд з сваёй іскрыпкай
Заробіць мільёны грошаў).

Часам адчыніцца вакно і яму кінуць капейку, а часцей вакно не адчыняецца, бо няма паза ім і капейкі. І ён бадай вобмацкам ідзе далей. У ягоных руках не Страдываріус і сам ён не Паганіні, але месьцічкоўцы яго любяць. Калі ўжо навет «Ідэл міт зэйнэм фідэл» пяе пра мільёны грошай, дык і мы — Беларусы ды Жыды — дадзём яшчэ сабе рады.

Божа, што зьлітаваўся над сваім абраным народам і зьвярнуў яму Ізраіль, прыслухайся да нашых малітваў і зьвярні нам Беларусь!

Пераважную бальшыню нашых вазёраў ды валуноў-камянёў пакінуў нам вялікі ледавік, але, абмінаючы геалёгічную прозу, Беларусы, з прычыны самае існасьці свае нацыянальнае натуры, апаэтызавалі іхнае нараджэньне. Няма ніводнага возера на Беларусі, вакол паходжаньня і назову якога ня створана тая ці іншая, але заўсёды цікавая легенда. Надзвычай характэрныя ў гэтай галіне вазёры — Сьвятое, Сьвятазер'е і Сьвітазь. Ужо ў народных паданьнях зьніклі прычыны, у сувязі зь якімі царквы правальваліся пад зямлю, а на іхнім месцы зьявіліся вазёры, але затое народ з пашанай да іх ставіцца і надаў ім адпаведныя назовы. Гэтак паўстала ў чатырох кілямэтрах ад Мсьціслаўля Сьвятазер'е або Кіркорава возера. Калі прыгадаць, што Мсьціслаўль чамусьці не чапалі Татары, дык ці не адбілася ў зьнікненьні царквы «Трубяцкая разьня», учыненая «единоверным старшим братом». Гэтак паўстала і возера Сьвятое ў ваколічнасьці цяперашняга гораду Асіпавічы. Аднак яно розьніцца ад Сьвятазер'я сваёй шырынёй і глыбінёй. Цяпер Сьвятое значна зьменшылася, але тады, паводля паданьня, на 12 кілямэтраў заліло ўсю ваколічнасьць. Вяроўку з патапцом апушчалі тамашнія на 15 сажняў і гэтак не дасталі ягонага дна. І разам з тым на абодвух гэтых вазёрах ня ўсе, але шмат хто чуў званы затопленых цэркваў, а ў сьвятую Вялікодную ноч:

— Хрыстос Уваскрос!

Г. А. Такаеў

# Аб Бэрыі, Керэнскім, рэвалюцыі й контррэвалюцыі

**АД РЭДАКЦЫІ:** Аўтар гэтае працы, Рыгор Аляксандравіч Такаеў, былы кадравы інжынер-палкоўнік авіяцыі. У 1932—45 годзе ён па чарзе займаў становішчы: слухача, інжынера, галоўнага інжынера, начальніка Аэрадынамічнай лябараторыі, выкладчыка, старшага выкладчыка, галоўнага лектара, сябры Навуковай Рады й начальніка Авіяцыйнага цыклю пры чырвонасьцяжнай і ордэну Леніна Вайскова-Паветранай Інжынернай Акадэміі імя праф. Жукоўскага. У 1939—45 гадох дадаткава займаў таксама становішчы прафэсара авіяцыі й начальніка Авіяцыйнага цыклю Маскоўскага Інжынернага Інстытуту. Ягоныя навуковыя веды й ступені: вайсковы інжынер-мэханік самалётабудаўніцтва, кандыдат тэхнічных навук, дацэнт катэдры аградынамікі й канструкцыі самалётаў, навуковы работнік першае клясы. Пасьля пераходу на Захад ён быў выбраны сябрам Каралеўскага Таварыства Фізыкаў і Матэматыкаў.

У 1945 годзе Такаеў быў прыдзелены да навуковай экспэртызы савецкай дэлегацыі на Потсдамскай канфэрэнцыі, а пазьней — старшым ахвіцэрам пры маршале Жукаву ў пытаньнях навукі й тэхнікі. У 1947 годзе быў назначаны спэцыяльным упаўнаважаным палітбюро й Савету міністраў у пытаньнях рэактыўнай авіяцыі і далёкасягальных ракетаў. Пры гэтым па лініі дзяржаўнай бясьпечнасьці ахарона ягонай Камісіі асабіста Сталінам была даручаная генэрал-палкоўніку Сераву.

У службовых і іншых справах Такаеў асабіста быў у кантакце з Сталінам, В. Сталінам, Бэрыяй, Вазьнясенскім, Маленкавам, А. А. Кузьняцовам, М. З. Сабуравам, А. І. Шакурынам, М. В. Хрунічавам, Жукавам, Сакалоўскім, Курасавам, Курачкінам, Серавам, Мяркулавам, Вяршынінам.

Паводля палітычных пераканаьняў Такаеў — поўнасьцю сфармаваны рэвалюцыйны дэмакрат. Паводля нацыянальнасьці — Паўночны Асецінец. Год нараджэньня — 1909.

У цяперашні час Такаеў заняты галоўным чынам навуковай працай паводля сваей прафэсіі. Ён зьяўляецца аўтарам некалькіх дзесяткаў навуковых працаў. Ён таксама зьмяшчае свае артыкулы на савецкія тэмы ў заходняй і эміграцыйнай прэсе, у тым ліку і ў «Бацькаўшчыне», у якіх выказвае шырокае зразуменьне і глыбокую сымпатыю да беларускага нацыянальна-вызвольнага руху.

Палкоўнік Такаеў нядаўна напісаў абшырную працу пад пададзеным угары загалоўкам, якая будзе друкавацца ў «Нашых пазыцыях». З гледзішча на цікавасьць і актуальнасьць тэмы, перадрукоўваем за газэтай «Українські Вісті» некалькі ўступных артыкулаў з гэтае працы.

*

### 1. Аб галоўным і другарадным пры вывучэньні праблемаў СССР

Ведама, што несавецкі сьвет, у тым ліку й сьвет эміграцыйны, выявіў вялікае зацікаўленьне да падсавецкіх падзеяў у СССР. Але я перакананы, што з гэтым ішла ў пары небясьпечная падмена фактаў — здагадкамі, запраўднасьці — уяўнасьцю, сур'ёзнасьці — нясур'ёзнасьцю, асьцярожнасьці — неасьцярожнасьцю. Тыповым прыкладам такога «вывучэньня» можна было-б назваць артыкул сп. Керэнскага ў «Нью Ёрк Таймсе» за 23. 2. 1955 г., аб якім будзе дакладна мова трохі ніжэй. Некаторымі выключэньнямі былі артыкулы Б. Нікалаеўскага.

Аб гэтым найкарысьней успомніць, што праблемы СССР вывучаюцца, зразумелая справа, ня толькі ў вонкавым сьвеце, ня толькі эміграцыяй, але і ў сярэдзіне СССР, пры чым ня толькі сталінцамі. Для ілюстрацыі ўспомнім хоцьбы анархасындыкалістых, трацкістых, дэмцэнтралістых, «новую апазыцыю», бухарынцаў, енукідзэўцаў, гамарнікаўцаў, нацыянал-камуністых, «буржуазных нацыяналістых», бакаеўцаў, народных дэмакратаў, умеркаваных сацыялістых - рэвалюцыянэраў, рэвалюцыйных дэмакратаў і іншых, якія, кажны на свой лад, намагаліся вывучаць сутнасьць сталінізму, бо разумелі, што бяз гэтага няма чаго й думаць аб пасьпяховасьці змаганьня.

Я не адчуваю хістаньня перад наступнай заявай: у сярэдзіне СССР, як правіла, мэтаю зьяўляецца вывучэньне **галоўнага, вырашальнага, вызначальнага,** а вонках СССР, таксама як правіла, але з паасобнымі выключэньнямі, спасьцерагаецца шумнае акцэнтаваньне на другараднасьцях, рэгістрацыя і нуднае пpainжоўваньне паведамленьняў савецкай прапаганды. Гэта трапілася і ў справе Бэрыі — Мяркулава.

### 2. Небясьпека, зь якою трэба змагацца

Але захапленьне другарадным у досыць важных справах хавае ў сабе вялікія маральна-палітычныя і тактычна-стратэгічныя вынікі, зь якімі трэба змагацца наважана і бязьлітасна. Справа ня ў тым, як мы ацэньваем Бэрыю і Мяркулава пасьмертна, а ў тым, што акцэнтаваньне на дробязях і здагадках уносіць суматоху, насьцярожанасьць, хвальшывае думаньне і дэзарыентацыю, родзіць абмежаванасьць глухім кутом, піхае на памылковыя разьвязкі і высновы, на ўзор тых, якія паявіліся хутка пасьля сьмерці Сталіна і гаварылі аб «новай эры», аб «эвалюцыі ў бок дэмакрацыі» і г. д.

Замест праблематычна-палітычнай аналізы вытвараецца бясплоднае пустаслоўе, якое дзіўным спосабам называецца чуць не змаганьнем за вызваленьне народаў СССР. Замест рэвалюцыянізуючых эмоцыяў выклікаецца рэакцыя псыхалягічнай контррэвалюцыі, якая задзіночвае народныя масы навакол іхных панявольнікаў — наступствы справы Бэрыі аб гэтым сьветчаць бясспрэчна. Замест належна зважанай асьцярожнасьці слова і дзеі вытвараецца палітыканская расхлябанасьць, якая часамі мяжуецца з правакацыйнай дзейнасьцю ворганаў дзяржаўнай бясьпечнасьці Серава.

Іншая небясьпека палягае ў тым, што барабанны бой «АНТЫ-ізму, ДАЛОЎ-ізму, НЕ-ізму, УСЁДРЭННА-ізму і НЯПУШЧАЦЬ-ізму», гэтых «канцэпцыяў» палітычных рэакцыянэраў і лягернікаў, адварочвае ўвагу ад непасрэдных заданьняў прысьпешаньня рэвалюцыйна-вызвольнай эмоцыі масаў, дыскрэдытуе самую ідэю такога руху, піхае элемэнты грамадзтва ў балота квазілевасьці. Бо гісторыя ня ведае ніводнага прыкладу дадатняй рэакцыі масаў на лёзунг голага запярэчаньня, а калі і ведае, дык гэта бывае антынародная контррэвалюцыя з тымі ці іншымі рэстаўратарскімі мэтамі. А хіба-ж мы зацікаўленыя ў гэтым?

### 3. Аб адным неасьцярожным выступленьні

У сувязі з гэтым, пры ўсім жаданьні не ўспамінаць канкрэтных прозьвішчаў, я не магу прайсьці міма ўжо ўспомненага артыкулу сп. Керэнскага, хаця-бы таму, што мова йдзе аб чалавеку, які яшчэ пазуе ў ролях «Прэзыдэнта Часовага Ўраду Расеі» і змагара № 1 за вызваленьне «расейскага народу». Нельга маўчаць, бо наш дзяржаўны дзеяч умудрыўся ў вадным артыкуле ў найбольшай чужынскай газэце наламаць вельмі шмат дроў, сьведама ці нясьведама заблытаць пытаньні, якія датычаць карэнных інтарэсаў народаў СССР.

Я проста не разумею, якая дзяржаўная прычына магла змусіць яго зьдзівіць сьвет «новай тэорыяй» справы Бэрыі, якую, судзячы паводля ўсяго, мала разумее. Праўда, ён засьцерагаўся, што намагаецца даць матарыялы для будучых гісторыкаў, але хай будзе дазволена запытацца: зь якога часу сталася правілам выносіць на агульны агляд розны «матарыял», які датычыць народных і дзяржаўных інтарэсаў? І чаму абавязкава ў чужынскай прэсе, у досыць неадпаведны час? Хіба цэнныя толькі апублікаваныя ў газэтах «матарыялы»? Хіба вонках СССР няма расейскіх архіваў, куды можна было-б аддаць свае «гістарычныя матарыялы», калі гэта так неабходна? Ці можа сп. Керэнскі ўважае, што эміграцыйныя правілы ўзбройваюць яго асаблівымі дзяржаўнымі ўпаўнаважаньнямі? Ці можа ён узапраўды перакананы, што сэнсацыйныя зацікаўленьні газэт нязьменна і дакладна зьбягаюцца зь інтарэсамі народаў СССР?

Я далёкі ад думкі аб наўмысным злачынным намеры Керэнскага. Магчыма яму захацелася паказацца накшым, і толькі. Але няўжо-ж ён такі хлопчык у палітычных справах, каб не разрозьніць дапушчальнага ад недапушчальнага?

### 4. Законныя пытаньні

Хрыбтом ягонай «новай тэорыі» зьяўляецца правакатарская нябыліца Маглакелідзэ, шпіёна Серава на Захадзе. Мне ня прыходзілася знаць яго, але перагляд архіўных матарыялаў пераконвае, што мова йдзе аб адным із паскудных гітлераўскіх «вызвольнікаў», аб пасярэдніку між палітычнай ахранкай нацызму і пэўнымі «расейскімі» групамі ў лягеры нямецка-фашыстаўскіх захопнікаў, якія ішлі ў наш край як імпэрыялістыя, расістыя, калянізатары, панявольнікі. Існуюць некаторыя падставы прыпускаць, што ў меншай меры ў сярэдзіне 1946 году, Маглакелідзэ быў зьвязаны з апаратам генэрал-лейтэнанта дзяржаўнай бясьпечнасьці Кавальчука ў Бэрліне, што гэты правакатар выконваў функцыі рэзыдэнта МГБ на эміграцыі. Ня выключаная магчымасьць, што ён сыстэматычна даносіў аб усім, што рабілася ў колах, у якіх ён абарочваўся.

Цяпер, калі вельмі позна, Керэнскі абвяшчае post factum, што трэба было-б быць асьцярожным зь ім. Але каму? Хто мусіў-бы быць асьцярожным? Хіба-ж ня сам Керэнскі піша, што сядзеў зь ім у Бэрліне і спакойна абгаворваў палітычныя пытаньні, у тым ліку і справу Бэрыі — Мяркулава?

Узьнікаюць законныя пытаньні: як гэта ўсё магло трапіцца? Паводля якога маральнага права наш прэтэндэнт абгаворвае з правакатарамі пытаньні, якія датычаць карэнных інтарэсаў рэвалюцыйна-вызвольнага змаганьня і небясьпеку якіх-бы то ня было ворагаў крэмлёўскага рэжыму? Ці ў змове Бэрыі Керэнскі бачыў толькі самога Бэрыю? Ці актыўнае гітлераўскае мінулае Маглакелідзэ ня было дастатковай падставай для праяўленьня мінімальнай асьцярожнасьці?

Баюся, што адказ на апошняе пытаньне дастаткова ясны з друкаванага ворґану Керэнскага, у якім, як ведама, не адзін раз зь бессаромнасьцю апублікоўваліся фотоздымкі «вызвольнікаў» у нацыстаўскай уніформе.

### 5. Правакацыйная заява Маглакелідзэ — Керэнскага

Падхапіўшы чужую правакацыйную нябыліцу і не патурбаваўшыся здаць сабе справы з магчымых яе наступстваў, наш, заўсёды неасьцярожны дзяржаўны дзеяч, абвяшчае сьвету, што, магчыма, групу Бэрыі-Мяркулава зрадзіў Маглакелідзэ. Ня, скажым, Трушновіч ці Хахлоў, Харунжы ці Глезке, Пантэкорво ці Бюрджэст, Мэклін ці хто-небудзь, а неадменна «сэпаратысты» Маглакелідзэ. Нясур'ёзная тэндэнцыйнасьць згадваных на столькі вачавідная, што навет я яе адчуваю, будучы зусім свабодным ад розных сэпаратызмаў і імпэрыялізмаў.

Але справа ня ў гэтым. Калі паверыць дзіўнаму паведамленьню Керэнскага, то выходзіць, што якісьці прайдзісьвет Маглакелідзэ, а разам зь ім і тыя, што зь ім размаўлялі, з дакладнасьцю гадзіньнікавага мэханізму ведалі аб усей мэханіцы змовы Бэрыі-Мяркулава. Тут мы маем дасканальны прыклад лягернага думаньня, поўнага неразуменьня спэцыфікі ў сярэдзіне партыйнай махінацыі, закончанага нявуцтва ў пытаньнях сучаснага падпольля і змовы.

Больш таго гэта нябыліца, якая мяжуе зь сьвядомай ці несьвядомай правакацыяй. Баюся, што ў вадпаведны час знойдуцца жывыя ўдзельнікі справы Бэрыі-Мяркулава і яны ўспомняць аб Керэнскім, запатрабуюць ад яго адказу й доказаў, бо мова йдзе аб іхнай палітычнай і патрыятычнай рэпутацыі. Баюся, што Керэнскі ня зможа падаць ніводна-

(Заканчэньне на 4-ай бачыне)

## Дыскусія яшчэ ня скончаная

(Заканчэньне з 2-ой бачыны)

засталося. Але якую мы маем у гэтым пэўнасьць? У нашы часы ўсе палітычныя ходы прадбачыць нельга. І вось можа здарыцца, што чалавек будзе пастаўлены перад выбарам: лёяльнасьць, прыкладам, да Задзіночаных Штатаў, ці актыўная абарона нашых нацыянальных інтарэсаў. Паўтараем яшчэ раз: дай Божа, каб гэткая праўдападобнасьць была толькі тэарэтычнай.

На нашу думку, выхад з палажэньня знайсьці няцяжка. Тых, якія выявіліся сваёй працай, Рада магла-б выбраць у ганаровыя сябры. У вагульным-жа, былыя сябры Рады могуць знайсьці такія арганізацыйныя формы працы, якія, не паралелізуючы з Радай, былі-б вельмі карысныя для справы, што й практыкуецца іншымі нацыянальнасьцямі.

Што да праблемы жанімстваў, дык справа запраўды цяжкая — шмат цяжэйшая, чымся прадстаўляе яе сп. Скарыніч. Можа ў Задзіночаных Штатах «крызысу» й няма, але не такое палажэньне ў некаторых іншых краінах.

У вагульным трэба сказаць, што пераглядаючы артыкулы на разгляданую тэму, ствараецца ўражаньне, што палемізуе Эўропа з Амэрыкай. Гэта, пэўна-ж, выясьняецца розьніцай абставінаў. Пажадаем сабе, каб гэтая розьніца не перашкаджала нам узаемна разумецца.

**Ул. Нёмановіч**

Возера Сьвітазь, што на Наваградчыне, набыло сусьветную вядомасьць дзякуючы Адаму Міцкевічу. Адно зь беларускіх паданьняў, паводля якога на дне возера знаходзіцца горад, што праваліўся пасьля малітвы бездапаможных дзяўчат у часе нападу шматлікіх ворагаў, сталася тэмай для яго выдатнае баляды «Сьвітазянка». Тысячы турыстых наведалі пасьля вельмі маляўнічае возера зь сінімі, нібы вочы сьвітазянак, кветкамі лёбэліі і дзівіліся на брукаваную дарогу, што вядзе да падводнага гораду. Але да жыхароў узьбярэжнага сяла Міратычы, зь якога магчыма і паходзіў «паляўнічы тутэйшы» — галоўны герой баляды, яна не дайшла. Адзін зь іх, як сьветчыць годны даверу Адам Ганоры Кіркор, на пытаньне аднаго з турыстых:

— Ці бачылі вы калі-небудзь сьвітазянак?

— адказаў:

— З таго часу, як паніч выехаў і паненкі зьніклі.

І тут-жа дадаў, што возера ўсё больш і больш падмывае свае высокія паўночны і паўднёвы берагі. Хоча яно сплысьці дарэшты, або ў Шчару, або ў Сэрвач і капае сабе шлях да іх. А калі толькі праврвецца Сьвітазь, дык з галавой пакрые ўсіх паноў ды падпанкаў, а на бераг нарэшце выйдуць усе тыя гаротныя дзяўчаты разам з нашым паляўнічым.

Прыгадваючы нашыя геаграфічныя назовы рэлігійнага паходжаньня, нельга абмінуць сяла Міколка, рэчку Грамніцу і Пятніцкі ручай. Сяло Міколка на Ігуменшчыне паблізу мястэчка Лошы нічым рашуча не нагадвае перш — лепшага расейскага сяла — «Николаевское». Ягоны назоў паходзіць ад вельмі цікавае па сваёй архітэктуры былое вуніяцкае царквы ў імя сьвятога Мікалая Мірлікійскага, аб якім нашыя старцы — лернікі пяялі:

А хто Мікалая любіць,  
а хто Мікалаю служыць, —  
таму сьвяты Мікалай  
на ўсякі час памагай,  
Мікалаю!

На самым царкоўным цьвінтары ўзвышаўся шматвяковы дуб, які карыстаўся вялікай пашанай з боку насельніцтва. І гэтае ня зьдзіўляе, бо некалі дубы прысьвячаліся Пяруну. Як і ня зьдзіўляе таксама паданьне, што хтосьці калісьці закапаў пад гэтым дубам вялікі скарб. Паваліць дуб не чалавек, а пярун, і тады выйдзе навонкі скарб, якога хопіць на ўвесь абшар, дзе толькі чуваць званы з царквы сьвятога Мікалая, што ў сяле Міколка.

На Барысаўшчыне, паблізу ад мястэчка Плешчаніцы, цячэ рэчка Грамніца, якое берагі ўсе ў курганох. Вам адразу прыгадваецца грамніца-сьвечка, безь якое нельга ўявіць беларускую хату. Згатаваная з чыстага воску, асьвянцоная на Грамніцы, яна спадарожнічае Беларусу ў ягоным жыцьцёвым шляху. Яе запальваюць і калі пакутуе парадзіха, і калі багаслаўляюць да шлюбу і калі, не пагрукаўшы дзьвярыма, прыходзіць сьмерць. Яе запальваюць, і калі б'юць пяруны, і калі распачынаюць сяўбу. Гэта аб ёй прыгадаў у сваім творы «Ян і маці» Максім Багдановіч:

Сьвечка сьвеціць, сьвечка зьзяе, сьвечка дагарае  
І ў панурай, цеснай хаце хлопец намірае.

Пятніцкі ручэй, які, працякаючы праз Смаленск, надаў свой назоў частцы гораду — Пятніцкаму Канцу, сам дастаў назоў ад Пятніцкае царквы, калісьці пабудаванае над крыніцай, што зьяўляецца пачаткам ручэю. Сьвятая Параськева, імя якое ў перакладзе на нашую мову азначае — пятніца, сталася для Беларусаў абароньніцай нязьлічоных сьвятых крыніцаў, сталася аднэй з найбольш шанаваных на Беларусі сьвятых. Яшчэ за часы Гедыміна ў сталічнай Вільні жонка Альгерда і апошняя віцебская князёўна Марыя пабудавала на месцы мольбішча богу Рагутысу Пятніцкую царкву. А народ пабудаваў над сваймі крыніцамі тысячы капліцаў, прысьвечаных Параськеве-Пятніцы. Сьціплыя па сваіх памерах капліцы, у сярэдзіне якіх апрача абраза сьвятое Параськевы была студня, ніколі не зьмяшчалі тысячы багамолаў, што часам за сотню кілямэтраў ішлі сюды на прошчу.

На Віцебшчыне найбольш шанавалася капліца Пяценка ў Вяліжы. Да яе ў дзесятую пятніцу па Вялікадню сыходзіліся нязьлічоныя багамолы — апрача вяліскіх, бельскія, парэцкія, сураскія, усьвяцкія, гарадоцкія, невельскія, віцебскія. Яны прыходзілі, а ня прыяжджалі, каб ня зьневажыць сьвятыню. Яны ў часе Божае Службы ў Пяценцы стаялі на ўзгорках, паміж якімі яна знаходзілася. І гэтыя ўзгоркі здаваліся пакрытымі сьнегам ад сьвяточных сьвітаў, абшытых каляровай тасьмай. Па намётках розьніліся замужнія кабеты ад дзяўчат з караламі на шыі. Багамолы па чарзе праходзілі ў капліцу, прыкладаючыся да абраза, пакідаючы каля студні вышываныя ручнікі або пасмы кудзелі. Выйшаўшы з капліцы, набіралі ў бутэлькі сьвятую ваду, што па латку, над якім узвышалася Ўкрыжаваньне, выбягала з студні навонкі. Ужо дваццаць год таму разбурана вялікая Пяценка, але ніхто ня ў стане зьнішчыць ейную крыніцу з празрыстай халоднай сьвятой вадой. Адну з тых шматлікіх крыніцаў, пра якія навет на царскай катарзе, у Сібіры, на ленскай баржы № 18, дзе ён пакутваў за Беларусь, прыгадаў з жалем выдатны Алесь Гарун:

Чаму з маленства, з ураджэнства  
Ў жыцьцёвы май  
Ня умеў, як маці, шанаваці  
Цябе мой Край?  
То-ж я з Тваёю ключавою  
Сьвятой вадой?  
Напіўся болю аб нядолі  
Бядзе людзкой?

Дарма, што сьветлы Нёман меншы па сваёй даўжыні за шырокі Дняпро і хуткую Дзьвіну. Дарма, што за даўнія часы ён не стаўся гэткім гістарычным шляхам, як яны. Затое пазьней стаўся ён сымбалям нашага нацыянальнага адраджэньня, знайшоўшы адпаведны адбітак і ў народных паданьнях і ў мастацкай літаратуры. Аднак калі вядома, што Дняпро пачынаецца з Клёцавае імшары, а Дзьвіна паблізу ад калыскі Дняпра з возера Дзьвінец, дык скуль пачынаецца Нёман, дагэтуль дакладна невядома.

Бальшыня навуковых дасьледваньняў і народных паданьняў даводзяць, што цяперашняя рэчка Вуса, якая цячэ з-пад Сьвятое Гары і прачула апяяная паэтам Алесям Салаўём, калісьці менавалася Нёман, другія тое-ж самае сьцьвярджаюць наконт рэчкі Вузьдзянкі, што пачынаецца ў пяці кілямэтрах ад мястэчка Вузды, трэйція сьветчаць, што гэта мястэчка Лоша спрычынілася да перайменаваньня Нёману ў рэчку Лошу, і нарэшце чацьвертыя прыпушчаюць, што рэчкі Вуса і Лоша, спалучыўшыся разам каля мястэчка Пясочнага, нараджаюць Нёман.

Паміж шматлікімі народнымі паданьямі ёсьць адно, якое сьветчыць, што цячэ Нёман з-пад альховага корчу. Між тым у нашым фальклёры альха належыць да «юдашавых дрэваў». Калі дубы, бярозы, ліпы, хвоі, яліны і г. д. для Беларуса сьвятыя ці бадай сьвятыя, дык з крывавых сьлёзаў выгнанае з раю Эвы нарадзілася рабіна, зь сьлёзаў сьрінутага зь неба д'ябла крушына, на асіне Юда павесіўся, а на алешыну «кроў пусьціў» — таму ў асіны горкі смак, а ў сьвежай драўніне алешыны крывавы колер. Не, не з-пад альховага карчу распачынаецца Нёман. Сам народ заўсёды самае дарагое для сябе шанаваў, як сьвятое.

Мы Беларусы незалежна ад таго, скуль мы — ці з-пад Дзьвіны, ці з-пад Прыпяці, ці з-пад Дняпра, ці з-пад Бугу, ведаем, як цячэ Нёман праз Налібокі і Дакудаўскія дубовыя лясы, перахапіўшы ў дарозе Бярэзань і Шчару, мы чуем, як, пракапваючыся праз Горадзенскае ўзгор'е, грыміць ён у сваіх парогах — Швец ды Кравец, Калатоўка ды Бічы. Нёман для ўсіх нас адзіны і непаўторны. І калі нашыя нашаніўцы сумна зазначалі:

Вісьне скарга ўздоўж Нёмна  
Беларусі сына,

— дык мы яшчэ пабачым, як нарэшце і назаўсёды:

Прыпадыйме бацька Нёман  
На хрыбце магутным лёд.

І няхай хтосьці ды дзесьці спрачаецца аб тым — скуль паходзіць Нёман. Плыве з-пад Сьвятое Гары Нёман.

**(Канец першай часткі)**

